# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

№2(3), 1997 г.
снежань

кошт свабодны

грамадска - палітычная, асветніцкая газета,
выдаецца са жніўня 1996 г.


## ЭКАЛАГІЧНАЕ ВЫХАВАННЕ – НЕАБХОДНАСЦЬ ЧАСУ

Сёння ўжо ўсе зразумелі, што дзіцячыя арганізацыі школам патрэбны. Патрэбны хаця б для таго, каб адцягнуць падлеткаў ад вуліцы, прывучыць да самастойнасці, заняць у вольны ад школы час. Але якія арганізацыі? Вядома, трэба пазбегнуць недахопаў, што мелі ў свой час піянерскія і камсамольскія аб'яднанні. Бо гэтыя арганізацыі таму і развалі́ліся, што былі залішне палітызаваныя і кіраваліся чыноўнікамі.

Ёсць два шляхі: можна вярнуцца да ўжо добра вядомых камсамольцаў з піянерамі, а можна паспрабаваць стварыць новыя аб'яднанні, якія б больш адпавядалі часу. Але галоўная цяжкасць у тым, што фактычна няма дарослых, якія б дапамаглі дзецям стварыць тую ж скаўцкую арганізацыю або які-небудзь клуб ЮНЕСКО.

Якія ж аб'яднанні прыжыліся ў школах горада? У 16-ці школах існуюць піянерскія арганізацыі, у СШ № 7,17,23 - дзіцячыя рэспублікі, у гімназіі №1 - саюз гімназістаў. Але я б набраўся смеласці выдзеліць экалагічны напрамак СШ №1 і гімназіі №2. Якіх бы палітычных поглядаў чалавек не быў, ён павінен разумець: чалавецтва можа загінуць, калі людзі не пачнуць жыць з прыродай у згодзе. А таму ранняе навучанне і выхаванне вучняў з пазіцыі экалогіі надзвычай важнае.

На гэты момант у школе №1 працуе дзіцячая арганізацыя " Зялёны свет", працягваецца стварэнне экалагічнага музея, за кошт школьнага кампаненту праводзяцца экалагічныя ўрокі, працуюць прыродазнаўчыя гурткі, - уся выхаваўчая праца мае выразны прыродазнаўчы накірунак. А самае галоўнае тое, што настаўнікі і вучні бачаць перспектыву такой працы і гатовы падзяліцца сваім вопытам з іншымі.

*М.Пучыла.*

## МОЦНЫЯ КАРАНІ–КРЫНІЦА СІЛЫ. А У ВАС?



Фота В. Спіранскага

## РАБОТУ ЗГОРТВАЦЬ РАНА...

Калі ў 1990 годзе ў горадзе было створана Таварыства беларускай мовы, здавалася, што праз некалькі гадоў напружанай работы па аднаўленню значнасці мовы ў грамадстве (перш за ўсё ў навучальным працэсе ), па вяртанню народу культурнай спадчыны продкаў, гістарычнай праўды, неабходнасць у яго існаванні адпадзе. Дзякуючы намаганням энтузіястаў, многія кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў, гарадскога аддзела адукацыі была праароблена вялікая па аб'ёму і значнасці работа. Абмяжуемся гэтай фразай, бо аб гэтым не раз пісалася падрабязна. Вынікі работы былі адчувальнымі.

Але, на вялікі жаль, пасля рэферэндуму працэс беларусізацыі замарудзіўся, а па многіх пазіцыях у наяўнасці так званы адкат. Назіраючы за адносінамі да мовы самых важных дзяржаўных чыноўнікаў, бацькі, адпраўляючы сваіх дзяцей у школу, выбар робяць не на карысць беларускай мовы. Калі яшчэ нядаўна статус беларускамоўнай мелі большасць школ горада, то цяпер рэальна існуе як беларускамоўная толькі гімназія N 2.

Яшчэ адзін прыклад, які яскрава сведчыць, што пра развіццё, пашырэнне беларускай мовы - клопат не дзяржавы, а асобных энтузіястаў. У лістападзе, пасля вялікага перапынку, у горадзе Ліда аднавілася выданне газеты "Наша слова" - органа Рэспубліканскага ТБМ. Прычына ж прыпынку выдання банальная - поўная адсутнасць дзяржаўнай падтрымкі ў фінансаванні.

Такім чынам, мары аб тым, што беларусізацыя пойдзе сваім натуральным ходам, як адпаведныя працэсы у любой другой краіне, мары аб тым, што ў сілу гэтага не патрэбна будзе і Таварыства, аказаліся не рэалізаванымі. Больш таго, відавочна, што ўсім, каму не абыякавы лёс мовы, культуры, гісторыі, адукацыі, выхавання ў нашай дзяржаве, трэба памножыць свае намаганні для дасягнення святой мэты: беларуская мова павінна заняць ва ўсіх сферах жыцця пануючае месца.

## ВІНШУЕМ!

28 - 30 лістапада ў Беразіно прайшоў першы абласны фестываль аматарскіх тэатраў. Яго арганізатарамі былі Упраўленне культуры Мінскага аблвыканкама, камітэт па справах моладзі Мінскага аблвыканкама і Бярэзінскі райвыканкам. У фестывалі ўдзельнічалі народныя тэатры з Барысава, Беразіно, Мар'інай Горкі, Нясвіжа і Слуцка.

Па выніках фестывалю пераможцам стаў Барысаўскі народны тэатр "Відарыс" са спектаклем "Крыж ля чорнага тракта". Адзначана лепшая мужчынская роля - роля Сыракомлі, якую выканаў У. Буйко. Атрымаў тэатр "Відарыс" ад арганізатараў і каштоўныя падарункі.

Журы фестывалю адзначыла нетрадыцыйны падыход Барысаўскага тэатра да вырашэння нацыянальнага пытання, высокі прафісійны ўзровень рэжысуры, акцёрскага майстэрства і падыходу да выяўлення беларускай гісторыі. Старшыня журы прафесар, доктар мастацтвазнаўства Юрый Сохар асобна адзначыў высокі інтэлектуальны ўзровень удзельнікаў Барысаўскага тэатра. Прыемна таксама адзначыць, што адзнака працы тэатра "Відарыс" журы цалкам супала з меркаваннем гледачоў.

Па заканчэнні фестывалю Барысаўскі тэатр "Відарыс" атрымаў запрашэнне ад кіраўніцтва Бярэзінскага райвыканкама на гастролі ў г. Беразіно і Бярэзінскі раён.

Прайшоўшы фестываль вырашана зрабіць традыцыйным і праводзіць раз у два гады. Наступны фестываль адбудзецца у 1999 годзе.

## БАРЫСАЎШЧЫНА Ў ІХ ЛЁСЕ

(Працяг, пачатак у №1 за 1996г. і №1 за 1997г.)

Савіцкі Уладзімір Іларыёнавіч нарадзіўся на Магілёўшчыне ў сялянскай сям'і. Да Вялікай Айчыннай вайны вучыўся і працаваў у Расіі. З пачатку вайны на фронце, быў паранены. На працягу 1944 - 1957 гадоў працуе ваенным журналістам. Пасля дэмабілізацыі жыў у Барысаве. Літаратурай пачаў займацца пасля вайны. Пачаў з вершаў, але прыкметных поспехаў дасягнуў у прозе. У выдавецтвах Мінска і Масквы выданы яго кнігі "Людзі пярэдняга краю", "Ішлі салдаты", "Ноч перад парадам", "Улька", "І прыдзе твой дзень", "Алёнушка з Доўгіх Ніў".

Асноўная тэматыка яго твораў - вайна, подзвіг народа, замілаванасць да роднага краю, жыццё тагачаснай вёскі, узаемаадносіны чалавека з прыродай. Пісаў на рускай мове. Памёр у 1989 годзе.

Яшчэ адзін прафесіянальны ваенны Нікалаеў Ігар Міхайлавіч у аснову сваёй творчасці паклаў ваенную тэматыку. Жывучы ў Барысаве з пасляваенных гадоў, напісаў і выдаў кнігі " Дарагія мае сапёры"," Пах пораху"," Лінія фронту", "Брандэнбургскія вароты" і другія. Ураджэнец Гомельшчыны, Міхась Стрыгалёў з 1987 года жыве ў Барысаве, а да гэтага была вучоба на радзіме, у БПІ у Мінску, работа ў розных установах і прадпрыемствах Расіі.

Са студэнцкіх гадоў пачынае публікаваць свае вершы ( піша па-руску і па-беларуску). Выдаў зборнікі "Хмель", " Белая Русь", " Ростань", "Чырвоныя казармы"," Кола фартуны", " Дзесяты кардон ". Яго творчасць характарызуецца глыбокім лірызмам, цеснай сувяззю з фальклорам. Стрыгалёў настаўйліва шукае свае адметныя шляхі ў паэзіі. А яшчэ ён выступае як крытык і перакладчык.

У жыцці вядомага паэта Сяргея Законнікава адзін год жыцця і працы на Барысаўшчыне - толькі невялікі эпізод. У 1969 - 70 навучальным годзе ён працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, арганізатарам пазакласнай і пазашкольнай работы Клетнаўскай сярэдняй школы. Пісаць і друкавацца Законнікаў пачаў яшчэ ў студэнцкія гады ( вучыўся на філфаку БДУ ), а на Барысаўшчыне яго талент яшчэ больш узмужнеў. За наступныя гады творчасці паэт выдаў многа зборнікаў лірыкі, напісаў некалькі паэм. З'яўляецца лаўрэатам літаратурнай прэміі СП Беларусі імя А.Куляшова, лаўрэатам дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. З 1986 года - галоўны рэдактар часопіса "Полымя".

Лёс вядомага празаіка Генрыха Далідовіча з Барысаўшчынай звязаў на 6 гадоў. У 1968 - 73 гадах ён працаваў у Шабынькаўскай базавай школе настаўнікам, а потым завучам. Праўда, у кар'еры настаўніка быў перапынак ( у 1969 -70 гг. ён служыў у Савецкай Арміі). А нарадзіўся пісьменнік на радзіме Я.Коласа, Стаўбцоўшчыне, дзе вучыўся і дзе далучыўся да таямніцаў мастацкай творчасці. Невыпадкова першае яго апавяданне з'явілася на старонках раённай газеты " Прамень". З той пары напісаў нямала цікавых апавяданняў, аповесцяў, раманаў. Найбольшую цікавасць для жыхароў Барысаўшчыны ўяўляе цыкл аповесцяў пра сельскую школу (" Усё яшчэ наперадзе", "Завуч","Міланкі"," Дырэктар"), бо матэрыялам для іх напісання паслужылі уласны жыццёвы вопыт, набыты, як ужо адзначалася, пад час работы ў Шабынькаўскай школе. Пісьменнік часта выступае з артыкуламі, эсэ на злабадзённыя пытанні нашага жыцця. За раман "Гаспадар - камень" удастоены літаратурнай прэміі СП Беларусі імя І.Мележа. З 1981 года працуе галоўным рэдактарам часопіса " Маладосць".

На гэтым у нататках, прысвечаных жыццю і творчасці пісьменнікаў, лёс каторых так ці інакш звязаны з нашымі роднымі мясцінамі, можна было б ставіць кропку, калі б... Калі б кожны дзень, месяц, год не прадаўжаў гэты пералік, бо зямля наша багата на таленты. У мастацкую літаратуру ідуць людзі розных узростаў і прафесіў. Адны з іх маюць адну - дзве публікацыі, другія - ужо свае зборнікі. Сярод іх Мікола Федзюковіч, Ала Лапошын, Таццяна Зіненка, Васіль Медуніцкі, А.Ляўша, А.Маеўская, В.Буланда, Я.Прадзядовіч, І.Пецюкевіч, В.Барысаў, М.Мятліцкі, Л.Пятрова...

У школах горада, раёна, вучылішчах вучацца дзеці, у сэрцах якіх зарадзілася прага да прыгожага, узнікла неабходнасць дакрануцца да скарбонкі паэзіі, неадольная цяга паспрабаваць свае сілы ў літаратуры.

Так што няпоўны пералік талентаў Барысаўшчыны няспынна папаўняецца.

*І.Белы.*

У далейшым рэдакцыя мае намер публікаваць больш дэталёвыя матэрыялы пра жыццё і творчасць барысаўчан: інтэрв'ю з імі, іх успаміны, рэцэнзіі на іх творы, агляды і г.п. Запрашаем да супрацоўніцтва, гатовы прадастаўіць старонкі для мастацкіх твораў, арыгінальных матэрыялаў па тэматыцы газеты.

## НОВЫЯ ІМЁНЫ

На прайшоўшым у лістападзе ў Барысаве рок - фестывалі многія, пэўна, звярнулі ўвагу на новы тутэйшы беларускамоўны гурт "Кубічны дол". Безумоўна, іх можна назваць адкрыццём гэтага фестывалю. Дзеля лепшага знаёмства чытачоў з музыкамі гурта прапануем вам маленькае бліц - інтэрв'ю з імі.

- Адкуль вы?... - З Барысава.
- Калі сабраліся?... - Летам гэтага года.
- Чаму такая назва?... - Няхай самі здагадаюцца. Нам падабаецца. (Збоку) - Пакуль што. Мабыць, будзем прыдумваць што-небудзь іншае.
- Пішаце свае песні па-беларуску?... - У асноўным так.
- Чаму?... - Мы тут нарадзіліся. Нам гэтак трэба.
- Што на будучыню?... - Пакуль гэта маленькая тайна.
- У наступным фестывалі збіраецеся ўдзельнічаць?... - Так, але ўжо з вялікай сваёй праграмай.

*Гутарку вёў У.Буйко.*

## НЯМА ТАГО, ШТО РАНЬШ БЫЛО

Газета "Гоман Барысаўшчыны" у №1 за 1996 год пісала пра млын у вёскі Гара і гісторыю, што адбылася вакол яго больш ста год таму. На вялікі жаль, мы мусім канстатаваць, што млын у Гары болей не існуе. Ён быў разабраны летась.

Гэта быў апошні з калісьці вельмі шматлікіх вадзяных млыноў на Барысаўшчыне...

# Я ВЕРУ Ў СВАЁ ВЫРАТАВАННЕ

У кожнага чалавека павінна быць на зямлі такое месца, якое ён больш за ўсё любіць і шануе.

Дзе мой родны кут? Што ён значыць для мяне? Я нарадзіўся ў Малдове, але сваёй радзімай лічу Беларусь. Адсюль усе мае продкі, бацькі. Для мяне Радзіма пачынаецца з палескай вёскі, адкуль бярэ пачатак увесь наш род.

У дзяцінстве слова "Радзіма" і азначала для мяне родную вёску, рэчку, бабуліну хату ў кветках, сад, дзе так добра быць падчас захаду сонца, саму бабулю - добрую, шчырую жанчыну, заклапочаную гаспадарчымі і хатнімі справамі. І бабуліны дранікі, пахучыя і хрумсткія, ад якіх немагчыма было адарвацца.

Паступова паняцце Радзімы шырылася і набывала духоўны сэнс. І мова ў гэтай духоўнай Радзіме займала ўсё большае месца. Тая мова, на якой гаварылі Скарына і Гусоўскі, за якую змагаліся Каліноўскі і Багушэвіч, на якой тварылі Купала, Колас і Багдановіч, за якую змагаюцца сённяшнія нашы адраджэнцы. Гэта яе драбавалі пры Польшчы, катавалі ў Расійскай імперыі, на ёй забаранялі думаць і гаварыць, за яе расстрэльвалі ў ГУЛАГах. Але яна не памерла, яна жыве. Для мяне яна такая, як у вершы П.Панчанкі :

**Ільняная і жытнёвая. Сялянская.**
**Баравая ў казачнай красе.**
**Старажытная, як травы ў расе.**
**Вобразная, вольная, пявучая,**
**Мова беларуская мая!**

Мова для мяне - гэта сувязь паміж мінулым, цяперашнім і будучым. Гэта сувязь паміж маімі продкамі і маімі нашчадкамі.

У апошні час я многа разважаў над пытаннем: "Чаму мы не размаўляем на роднай мове? Чаму забыты нашы продкі, гісторыя, культура?" І прыходжу да высновы, што гэта ўсё таму, што мы страцілі любоў да Радзімы, да роднай зямлі, а разам з гэтым мы страчваем не толькі мову, але і саму Радзіму. Для нас Беларусь стала месцам жыхарства, а не Бацькаўшчынай. Выраслі пакаленні, якія здрадзілі сваім продкам. Ці ёсць будучыня ў таго, хто не мае памяці? Уся гісторыя чалавецтва гаворыць, што без мінулага не бывае будучага. Сёння ў нас яшчэ ёсць шанец на вяртанне да каранёў, да Радзімы, да саміх сябе. А значыць, ёсць шанц на выратаванне. Я веру ў сваё выратаванне, бо ў маім сэрцы жывуць Рагнеда і Усяслаў Чарадзей, Ефрасіння Полацкая і Францішак Скарына, Вітаўт і Каліноўскі - усе тыя, хто ствараў, бараніў і праслаўляў маю Радзіму. Жывуць у ва мне Сіняя Вада, Грунвальд і Орша. Жывуць у маёй душы мае дзяды - прадзеды. Жыве Караткевіч яго песняй - клятвай:

**Мы клянёмся, табе, што ніколі,**
**Ніколі,**
**Ніколі,**
**Так,**
**Ніколі не кінем,**
**Не кінем**
**Не кінем цябе.**

Жыве ў душы мова. Жыву я. Жыве Беларусь.

*А.Цяліпка, студэнт БДУ.*

# З КОШЫКА КІРЫЛЫ КНІГАНОШЫ

Вось і зноў я з вамі, шаноўныя мае чытачы. За гэты час шмат пытанняў давялося пачуць мне і шмат на якія адказаць. Але найбольш задавалі пытанне - Што чытаць аб гісторыі Беларусі. Шаноўныя мае, у першых нумарах нашай газеты я казаў аб гэтым. А сёння хачу спыніцца на адным аўтары. Гэта пісьменнік Уладзімір Арлоў. Даследуючы нашу мінуўшчыну, ён збіраў тое, што на працягу многіх гадоў не ўдавалася зрабіць цэлым даследчым інстытутам. Пачынаючы ад паганскіх часоў да нашай сучаснасці нічога не засталося незаўважаным гэтым чалавекам. Але зараз я хачу засяродзіць вашу ўвагу на адной толькі яго кніжцы. Гэта - "Таямніцы полацкай гісторыі".

Пасля таго, як быў згублены Полацкі летапіс, ніхто так не займаўся гісторыяй Полацка і полацкай зямлі, як У.Арлоў. З гэтай кнігі вы даведаецеся, колькі ўсё ж год старажытнаму Полацку, пройдзеце па старонках гісторыі ад часоў паганства да пачатку XX стагоддзя. Імёны Брачыслава, Усяслава Чарадзея і Уладзіміра, Рагнеды і Рагвалода, Францыска Скарыны, Івана Жахлівага, Пятра І, Напалеона, Ігната Буйніцкага - гэта ўсё гісторыя полацкай зямлі. Гэта гісторыя нашай Беларусі. Таму знайдзіце і прачытайце кнігу Уладзіміра Арлова "Таямніцы Полацкай гісторыі". Мінск, выдавецтва "Беларусь", 1994 год.

*Кірыла Кніганоша.*



Зіма. Фота В. Сіпранскага

# ЗАБЫТЫЯ ВАЛЫ

У 1892 годзе ў Менску выйшла кніга Г.Татура " Очерк археологических памятников на пространстве Минской губерни и её археологическое значение". У гэтай кнізе, акрамя іншага, гаворыцца аб вялікіх валах, працягласцю да кіламетра. Адзін з канцоў гэтых валоў заўсёды ўпіраецца ў раку або возера. Відавочна, што гэта самыя вялікія з аб'ектаў, якія звязаны са старажытнай дзейнасцю чалавека. Цікава адзначыць, што да Татура і пасля яго ніхто болей іх не ўзгадваў. Да таго ж сам Татур не пакінуў ніводнага канкрэтнага апісання ці месцазнаходжання такіх валоў. У выніку для сучаснай гістарычнай навукі яны невядомы. Ды ці існуюць яны наогул?

Існуюць! На Барысаўшчыне захавалася некалькі з іх. Бліжэйшы да Барысава з такіх аб'ектаў - валоў, які амаль цалкам захаваўся, знаходзіцца ўсяго ў некалькіх кіламетрах ад горада. Дарэчы, характарызаваць гэтыя аб'екты як валы будзе не зусім дакладна. Гэта сістэма, якая складаецца, як звычай, з двух - трох валоў і нізін. Прытым валы могуць мець як прамыя, так і закругленыя формы, на што ў свой час звяртаў увагу Г.Татур. Акрамя таго, на валах часта маюцца больш высокія ўтварэнні - пляцоўкі круглай, прамавугольнай формы ці больш складаныя элементы.

Калі і з якой мэтай рабіліся такія валы? Для адказу на гэтае пытанне патрэбна іх даследванне. Можна выказаць меркаванне, што яны ўяўляюць сабой умацаваныя пасяленні. Невыпадкова, што ўсе яны пачынаюцца ля крыніц з пітной вадой. Валы служылі абарончым мэтам. Нізіны, якія штучна рабіліся каля валоў і маюць памер у некалькі дзесяткаў метраў, верагодна, прызначаліся дла размяшчэння жывёлы і іншых будынкаў, а таксама іх лепшай маскіроўкі. Асобныя насыпы, верагодна, выкарыстоўваліся ў культавых мэтах. Такія пасяленні з цягам часу пашыраліся і паступова пераходзілі да неўмацаваных селішчаў. Пры пераходзе да неўмацаваных селішчаў маглі часткова або цалкам знішчацца земляныя ўмацаванні. Гэта можна назіраць на асобных комплексах. Узводзіць такія валы маглі з першай паловы першага тысячагоддзя нашай эры, а магчыма, і раней - адначасова з першымі гарадзішчамі. Існавалі і пашыраліся сістэмы валоў хутчэй за ўсё да восьмага стагоддзя нашай эры, ці нават трошку пазней.

*М.Мацельскі.*

# З ГАСПАДАРЧАГА ДЗЁННІКА ГАННЫ ЦЮНДЗЯВІЦКАЙ

Ва ўсялякай гаспадарцы ўвосень паўстае пытанне, як захаваць усё тое, што чалавек нарошчваў. Таму звернемся сёння да вопыту нашых продкаў, якія стагоддзі таму выстаўлялі на стол свежую капусту, бульбу і ў самыя марозныя зімовыя дні. Паглядзім, што аб гэтым піша Ганна Цюндзявіцкая ў сваёй кніжцы "Літоўская гаспадыня".

### Як захаваць на зіму свежую капусту ў качанах

"У склепе насыпаюць сухі пясок, садзяць у ім галоўкі капусты, зняўшы першыя ніжнія лісты. Качаны часта аглядаюць, пажухлыя лісты абрываюць. Для ўжывання бяруць тыя галоўкі, што, здаецца, хутчэй пашкодзяцца. У мяккае надвор'е вокны ў памяшканні адчыняюць, а пад вечар зачыняюць. (Іншы спосаб) У тым жа склепе вешаюць капусту за карані на нацягнутых сверху вяроўках".

### Як захаваць на зіму бульбу

"На сухім пясчаным узвышшы адзначаюць круг дыяметрам прыблізна ў шэсць локцяў і выкідваюць з яго зямлю глыбінёй на паўлокця. У самым цэнтры ямы ўмацоўваюцца тры вузкія дошкі так, каб у сярэдзіне атрымалася адтуліна. Бульбу вакол дошак насыпаюць у выглядзе спічастага пагорка вышынёй не больш двух локцяў і абкладаюць спачатку саломай, а потым глебай, вынутай з ямы. Калі капец размешчаны не на ўзвышшы і ад яго няма сцёку вады, тады вакол ракопваюць равок.

Калі глеба замерзне з восені, капцы накрываюць саламяным гноем, што дасць магчымасць падтрымаць у яме роўную тэмпературу. Інакш глеба растане ў час адлігі і пашкодзіць бульбу.

Комін, гэта значыць адтуліну з дошак, у маразы затыкаюць саломай, а ў адлігу адчыняюць для свежага паветра і выпарэння вільгаці. У капцы сыплюць толькі праверануо і прасушаную бульбу."

Дзякуючы рэкламе, мы ведаем шмат рэчываў для мыцця бялізны. Але дазвольце прапанаваць вам іншыя сродкі з той жа кнігі Ганны Цюндзявіцкай.

### Мыццё рэчаў бульбай

"Добра вымытую бульбу труць на тарцы і гэтай гушчай, як мылам, націраюць не толькі плямы, а і ўсю рэч. Найлепш тады ўжываць халодную ваду. Калі так мыць паркаль і палатняныя тканіны, яны не толькі не страцяць колеру, але ад крухмалу, што ёсць у бульбе, набываюць цвёрдасць і выгляд новых."

### Мыццё рэчаў у вотруб'і

"Пшанічнае вотруб'е запарваюць варам, потым расціраюць, пакуль маса не пабялее. Рэч кладуць у начоўкі і націраюць той масай як мылам, каб выйшаў бруд. Тады палошчуць у рацэ, не выціскаюць, а страпянуўшы, развешваюць у цяні альбо адразу ж перакладаюць прасцінай, каб толькі што вымытыя рэчы не дакраналіся адна да адной і такім чынам не афарбоўваліся."

Паспрабуйце выкарыстаць вопыт нашых продкаў. І няхай на карысць ідзе ён вам.

# ПОГЛЯД У МІНУЛАЕ

**Гартаючы старыя падшыўкі газет і часопісаў, асабліва цікава чытаць матэрыялы, у якіх апісваецца наш край - прырода, жыццё, быт і выгляд пасяленняў нашых продкаў. Чытаючы такія артыкулы, нібыта акунаешся ў тыя часы.**

**Барысаўшчына заўсёды славілася сваімі краязнаўцамі. Адзін з найбольш вядомых - В. Самцэвіч. Ён шмат вандраваў па нашаму краю і запісваў свае назіранні і ўражанні. Шмат з іх у свой час былі надрукаваны. Зараз прапануем вам азнаёміцца з асобнымі фрагментамі запісаў В. Самцэвіча аб адной з такіх вандровак па поўдню Барысаўшчыны. Запісы былі надрукаваны ў часопісе "Наш край" 11-12 за 1929год.**

З Н.-Барысава да вёскі Гара каля 5 км. У вёсцы 82 двары. Хаты крыты саломай "пад лапату", гонтамі і дзе - ні - дзе дзёрам. На рацэ Пліссе ёсць млын...

У вёсцы Глівін цяпер налічваецца 162 двары, ёсць "тэатр" - будынак для пастановак спектакляў і сходаў...

Навокал Забашавіч яшчэ ў 80-я гады мінулага стагоддзя было шмат лясоў, у якіх было вельмі багата мядзведзяў і ласёў. У вёсцы налічваецца 148 двароў. Шэсць хат ужо пакрыты чарапіцай ( новаўвядзенне ў вёсцы )...

На рацэ Чапа пры ўваходзе ў вёску Чарневічы знаходзіцца невялікі вадзяны млын. У Чарневічах 50 двароў...

Праз раку Бярэзіну з вёскі Мурава існуе новы вялікі мост у мястэчка Чэрнеўка ( 350 чалавек насельніцтва ) з рачной прыстанню. Чэрнеўка здаўна была вядома сваімі ганчарнымі вырабамі. У мястэчку за апошнія гады пабудавана некалькі прыгожых драўляных дамоў; найлепшыя з іх - дом фельдшара і сінагога. У 80-я гады мінулага стагоддзя каля м. Чэрнеўка яшчэ існавала фабрыка па вырабу жалеза. Цяпер на месцы фабрыкі засталіся адны руіны ды кучы адкідаў на левым беразе Бабра. Гэтымі ж адкідамі высыпаны дарогі ў накірунку на Мурава - Чарневічы, Вяляцічы, Аздзяцічы...

Вёска Аздзяцічы выцягнулася з поўначы на поўдзень у дзве вуліцы. Адна вуліца цягніцца да 3 км. у даўжыню. Агульны лік насельніцтва - 1535 чалавек. Вёска з даўніх пор вядома тым, што ў ёй было пашырана п'янства, ад якога яна не пазбавілася яшчэ і да гэтага часу.

Паводле слоў старажылаў вёска Аздзяцічы знаходзілася раней (яшчэ ў часы прыгоннага права ) у іншым месцы, кіламетрах у трох - чатырох на паўночны захад. Але па загаду кіраўніка маёнткамі кн. Радзівіла сяляне мусілі перабрацца на новае месца. Адносна прычын такога перасялення ўсёй вёскі існуе некалькі версій. Паводле адной з іх - сяляне былі перасялены бліжэй да жалезнай фабрыкі, паводле другой - высяленне было звязана з нейкім непаслушэнствам сялян да выканання прыгонніцкіх абавязкаў.

*Падрыхтаваў А.Барэвіч.*

### УДАКЛАДНЕННЕ

У артыкуле "Сымон Жукоўскі", які быў надрукаваны ў "ГБ" №1 за 1997 год па віне рэдакцыі была допушчана памылка. Пры ўказанні месца нараджэння С.Жукоўскага замест "Мсціжскай парафіі" было надрукавана "Мсціслаўскай парафіі". Прыносім чытачам свае прабачэнні.

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

(Працяг, пачатак у №1 за 1996 г. і №1 за 1997 г.)

## ТУТЭЙШЫЯ ЗЕМЛІ АД V ст.н.э. ДА ЎВАХОДЖАННЯ Ў СКЛАД ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

### Змены ладу жыцця ў V-VIII ст.н.э.

Да сярэдзіны I тысячагоддзя н.э. адбываюцца значныя змены ў жыцці тутэйшых жыхароў. Да V стагоддзя знікае культура штрыхавой керамікі, замест якой складваецца культура кшталту Банцэраўскага гарадзішча. Гэты працэс паскорыла пранікненне ў наш край плямёнаў культуры тыпу Адаменскага селішча і славянаў. Але першая хваля славянаў была нешматлікая і не змагла прынесці зменаў у этнічным складзе тутэйшага грамадства.

Яшчэ ў IV ст н.э. пачынаецца пераход ад умацаваных пасяленняў-гарадзішчаў да значна большых па плошчы неўмацаваных пасяленняў - селішчаў. Так, у IV ст. скончылі сваё існаванне гарадзішча ля Дзядзілавічаў, Кіміі, Крынічак і ў іншых месцах. Пераход да селішчаў завяршыўся да V ст. Новыя пасяленні рабіліся або каля старых гарадзішчаў, як гэта было ля Дзядзілавічаў, Барані, або асобна ад іх, як тое маем ля Гвіна, М.Стахава і ў іншых месцах. Прытым, спачатку сталі ўзнікаць селішчы другога тыпу, а потым - першага. На пасяленнях першага тыпу старыя гарадзішчы, як звычай, выкарыстоўваліся пад час вайсковых дзеянняў. На іх хаваліся і трымалі абарону жыхары селішча. Самі абарончыя ўмацаванні ў гэты час не толькі захоўваліся, але і абнаўляліся, рабіліся больш моцнымі.

Чым былі выкліканы такія змены ў жыцці тагачасных тутэйшых балтаў? Верагодна, што тады наступіў больш мірны перыяд. У той жа час, магчыма, жыхары нашага краю сталі больш увагі ўдзяляць экспансіі чужых земляў. Карэнным зменам у тагачасным грамадстве магла папярэднічаць змена ў яго грамадска - палітычнай арганізацыі. Можна выказаць меркаванне, што ў тыя часы адбылося значнае тэрытарыяльнае аб'яднанне тагачаснага дзяржаўнага ўтварэння (або групы дзяржаўных утварэнняў). Яна па сваіх памерах, верагодна, стала параўнальная з княствамі часоў Русі XI - XII стст., а мо і болей. Ускосным падцверджаннем гэтаму можа быць тое, што ў сярэдзіне I тысячагоддзя нашай эры на большасці тэрыторыі сучаснай Беларусі і часткова на сумежных землях назіралася моцнае збліжэнне культур. Пры традыцыйным падыходзе да дзяржаўнасці ў нашым краі гэты факт ніяк растлумачаны быць не можа.

Сярод тутэйшых пасяленняў таго перыяду асаблівую цікавасць выклікае селішча каля Дзядзілавічаў. Яно існавала ў VI - VIII стст. н.э. Гэта быў буйны па тых часах населены пункт. Ён займаў плошчу каля 50 - 60 тысяч квадратных кіламетраў, што амаль у два разы перавышае плошчу пасада Барысава XII - XIII стст. На селішчы ля Дзядзілавічаў пражывала не менш за 1 - 2 тысячы чалавек. На ім выяўлена больш за 300 ям - западзін ад дамоў. Дамы мелі выгляд паўзямлянак трошкі заглыбленых у зямлю. Яны былі як зрубнай, так і слупавай канструкцыі. Адрозненне апошніх ад традыцыйных такога кшалту было тое, што слупы не закопваліся ў зямлю, а ставіліся на яе. На іншых селішчах дамы будаваліся як у выглядзе паўзямлянак, так і наземнымі.

Хаты на селішчы ля Дзядзілавічаў чатырохвугольныя, малога памеру. Плошча амаль паловы з іх, згодна дадзеных раскопак, вагаецца ад 7,2 да 8,8 квадратных метраў. Найбольшыя дамы былі па памерах 14,0 - 16,8 квадратных метраў. Амаль усе дамы мелі печы - каменкі, малая частка - ачагі. Пэўная колькасць выяўленых будынкаў не мела ні ачагоў, ні печы. Частка печаў - каменак захавалася і дайшла да нас у першапачатковым выглядзе. Рабіліся яны з гранітных каменняў, якія загадзя падвяргаліся апрацоўцы. З каменняў складвалася лішняе таким чынам, каб іх можна было б без аніякага раствору шчыльна класці адзін да аднага. Скляпенні пячэй рабіліся са спецыяльных каменных кліноў. Усе печы мелі круглую форму дыяметрам каля аднаго метра або авальную прыблізна такога ж памеру ці трошкі большага. Печы або вогнішча мясціліся ў куце жытла, як звычай насупраць уваходу.

У сярэдзіне - другой палове I тысячагоддзя ў сродках працы шмат у чым праследжваюцца традыцыі культуры штрыхаванай керамікі, хаця шэраг знаходак указвае на прысутнасць пэўнай часткі славян у нашым краі. Сярод тагачасных рэчываў (VI - VIII стст.) знойдзены жалезныя сярпы, сякеры (на селішчах ля Дзядзілавічаў і Кастрыцы), шыла (на селішчы ля Дзядзілавічаў), нажы (на селішчы ля Кастрыцы) і шмат чаго яшчэ. На селішчы ля Дзядзілавічаў акрамя таго знойдзены каменныя жорны, упрыгожванні з бронзы (падвескі, кальцо і інш.), шмат вырабаў з керамікі і іншыя рэчывы.

Рамёствы і сельская гаспадарка ў сярэдзіне - другой палове першага тысячагоддзя н.э. значных зменў не мелі. Толькі да VII - IX стст. пашыралася колькасць сельскагаспадарчых культур, якія вырошчвалі тутэйшыя жыхары. У другой палове I тысячагоддзя н.э., верагодна, пачалі выкарыстоўваць коней дзеля верхавой язды вяяроў. Культура кшталту Банцэраўскага гарадзішча, якая прыйшла на змену культуры штрыхаванай керамікі і мела балцкую аснову, зьнікнуў сярэдзіне V ст н.э., праіснавала да VIII ст. Яе развіццё было спынена ўзмацненнем уплыву славянаў.




### Масавыя міграцыі славянаў

Першыя славяне да нас маглі трапіць у V-VI стст. Але, як ужо казалася раней, яны не змаглі зрабіць істотнага ўплыву на карэннае насельніцтва і, верагодна, з цягам часу былі ім асіміляваны. У VI-VII стст. і асабліва пасля VIII ст. пачаўся масавы рух славянаў на тэрыторыю сучаснай Беларусі. Асноўныя накірункі іх міграцый наш край мінулі. Таму тутэйшыя землі яшчэ доўгі час заставаліся пераважна балцкімі.

З поўдня па Бярэзіне праз нашы землі аднымі з першых славянаў, згодна М.Ермаловіча,ішлі дулебы. Асноўная іх частка асела на поўдзень ад Барысаўшчыны, але пэўная іх колькасць, верагодна, дайшла да нашага краю і асела тут на сталае жыхарства. Па Бярэзіне з поўдня ішлі праз нашы землі дрыгавічы. Расселіліся яны па ўсёй Барысаўшчыне, але пераважная іх колькасць апынулася ў паўднёвай яе часціцы. Дрыгавічы, у адрозненне ад дулебаў, пакінулі на тутэйшых землях шмат слядоў. У прыватнасці, іх курганы захаваліся ля Аздзяцічаў, Барысава, Вялікага Стахава і ў іншых месцах.

Першымі славянамі, якія ішлі праз наш край з захаду, былі славене. Асноўная іх частка прайшла паўночней Барысаўшчыны, таму яны практычна не аказалі ўздзеяння на этнічны склад тутэйшага насельніцтва. Самае шматлікае ўсходнеславянскае племя, крывічы, ішлі праз Верхняе Панямонне ў напрамку сумежжа сучаснай Беларусі і Літвы. Іх частка пасялілася на поўдзень ад асноўнага шляху. Так крывічы трапілі на нашы землі. Гэта, хутчэй за ўсё, мела месца ўжо пасля прыходу сюды дрыгавічоў. Курганы крывічоў захаваліся ля нашых дзён каля Барысава, Малога Стахава, Хаўхоліцы, Глівіна і шмат дзе яшчэ. Разам з крывічамі, верагодна, ішло малалікае племя волатаў (або велетаў, веляцічаў). Этнічная прыналежнасць іх канчаткова не высветлена. След аб сваёй прысутнасці ў нашым краі волаты пакінулі ў тым ліку і ў назве вёскі Вяляцічы.

Працэс сканчэння масавай міграцыі славянаў і ўсталявання прыблізных межаў паміж асноўнымі этнічнымі групамі, у прыватнасці крывічамі і дрыгавічамі, меў месца толькі ў XI - XII стст. Відавочна, што не раней чым у гэты час славяне сталі дамініраваць у нашым краі над балтамі.

Узаемааднosіны славянаў з карэнным тутэйшым насельніцтвам былі пераважна мірнымі. Сведчаннем таму можа быць тое, што ў нас амаль цалкам захавалася старажытная балцкая гідраніміка, якой з часам дадзены славянізаваныя формы. Як паказвае гістарычны вопыт, пры гвалтоўным захопе земляў і пасяленні на іх новых насельнікаў, як звычай адбываецца змена гідранімікі, чаго ў нас не было.

У выніку міграцыйных рухаў славянаў у XI - XII стст. у нашым краі склаліся тры асноўныя этнічныя групы насельніцтва. Гэта балты, якія жылі па ўсёй тэрыторыі сучаснага Барысаўскага раёна, і славяне - крывічы і дрыгавічы. Крывічы жылі пераважна на поўнач ад Барысава, дрыгавічы - на поўдзень. Як балты, гэтак і славяне знаходзіліся прыблізна на адным узроўні свайго развіцця. Гэта спрыяла збліжэнню іх культур, а не паглынанню адной іншымі. Падобны этнічны склад быў характэрны для пераважнай ролі апошніх. Недзе да XIV стагоддзя і склаліся беларусы як этнас. Сляды ўздзеяння даславянскіх жыхароў на фарміраванне беларусаў можна назіраць шмат у чым. Пра балцкую гідраніміку і тампаніміку гаворка ішла вышэй. Акрамя таго заўважана, што арэалы распаўсюджвання балцкіх культур, як звычай, супадаюць з арэаламі дыялектаў беларускай мовы. Так, тэрыторыя, на якой ужываюцца цвёрдае "р" і "аканне", куды ўваходзіць і наш край, амаль цалкам супадае з арэалам распаўсюджання балцкай культуры штрыхаванай керамікі.

### Старажытныя курганы

У V - VIII стст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі назіраліся змены ў звычаі пахавання людзей. Менавіта ў гэты час узнікаюць першыя курганы. На Барысаўшчыне найбольш старыні сярод тых з іх, на якіх праводзіліся раскопкі, з'яўляюцца курганы каля Пагадзіцы. Яны былі зроблены ў VII - VII стст. Старымі з'яўляюцца курганныя могілкі ля Вялікага Стахава (VIII - IX стст.) і іншыя. Усяго ў нашым краі за апошнія больш чым 100 гадоў выяўлена і апісана больш за 60 курганных групаў, у якіх было больш чым паўтары тысячы курганоў. Да нашага часу дайшло больш за 800 з іх. Больш 300 курганоў знішчана. Найвялікшыя курганныя групы знаходзяцца каля Крашавіцы (каля 100 курганоў) і Пчэльніка (146 курганоў).




На 15 курганных групах праводзіліся археалагічныя раскопкі. Усяго даследавана больш за 100 курганоў.

Якія звычкі пахавання людзей мелі месца ў больш раннія часы (да V - VIII стст.) дакладна невядома. У нашым краі выяўлена толькі адно пахаванне, якое было зроблена яшчэ ў раннім перыядзе бронзавага веку (канец III - сярэдзіна II тысячагоддзя да н.э.). Знаходзілася яно ля Вяляцічаў.

З'яўленне курганоў звязана з першым славянскім насельніцтвам, але такога кшталту пахаванні рабілі як славяне, так і балты, што тлумачыцца ўзаемадзеяннем і зліццём іх культур. У нашым краі курганы рабілі ў выглядзе кругла ці зрэдку доўгага насыпу. Асобныя курганныя групы маюць круглыя курганы з плоскімі паверхнямі. Дыяметр большасці круглых курганоў складае 6 - 8 метраў. Найменшыя з іх маюць дыяметр усяго 4 метра, большыя - да 10 - 12 метраў (каля Крацэвічаў, Бягі, Студзёнкі і ў іншых месцах). У асобных курганах дыяметр складае 16 - 18 метраў (ля Обчы) і нават 20 метраў (ля Барысава, Пчэльніка і Іканаў). Большасць курганаў мае вышыню 0.4 - 2.0 метры, зрэдку 2.5 метры (ля Аздзяцічаў, Глівіна і інш.). Асобныя курганы дасягаюць у вышыню 3 - 3.5 метраў (ля Барысава, Іканаў, Пчэльніка і інш.) і нават 4 метры (ля Обчы). Каля многіх з курганоў можна назіраць невялічкія канаўкі (гэта мае месца ля асобных курганоў каля Барысава, Крацэвічаў, Вострава ды шмат дзе яшчэ).

Доўгія курганы можна назіраць, напрыклад, ля Пагадзіцы і Барысава. Яны маюць шырыню 6 і даўжыню каля 15 метраў і вышыню каля 1.5 метра. Доўгія курганы мелі распаўсюджанне да VIII стагоддзя.

У найбольш старых курганах у другой палове першага тысячагоддзя н.э. пры пахаванні людзей было распаўсюджана трупаспальванне. Попел ад нябожчыка клаўся на зямлю непасрэдна або ў спецыяльнай глінянай урне. Нярэдка дзеля гэтага выкопвалася невялічкая ямка, або наадварот - насыпаўся ўзгорачак. Шмат дзе на месцы пахавання папярэдне палілася вогнішча. Пасля закладкі попелу нябожчыка насыпаўся штучны ўзгорак - курган. Шырокае выкарыстанне пры пахаванні людзей агню было абумоўлена паганскім (язычніцкім) веравызнаннем тагачасных тутэйшых жыхароў і іх верай у яго ачышчальныя ўласцівасці. Курганы з трупаспальваннем маюцца каля Малога і Вялікага Стахава, Вяляцічаў, Глівіна, Пагадзіцы ды шмат дзе яшчэ.

На мяжы X - XI стагоддзяў замест трупаспальвання распаўсюджваецца трупапалажэнне. Гэткі абрад можна назіраць у курганах X - XII стагоддзя ля Барысава, Брылёў, Вяляцічаў і ў іншых месцах. Змены ў звычаі пахавання былі абумоўлены ўплывам хрысціянства, якое ў тыя часы пачало актыўна ўводзіца на нашых землях. Але доўгі час у курганах ля астанкаў чалавека клалі тыпова паганскія рэчывы. Канчаткова перамога хрысціянства сярод тутэйшых жыхароў, верагодна, мела месца ў XIII - XIV стст., хаця аб поўнай перамозе над паганствам казаць нельга. Яшчэ ў XVI - XVII стст і пазней праводзілася барацьба з ім. Да нашых дзён дайшлі такія святы як Купалле, Дзяды і іншыя, якія маюць паганскія карэнні. Імёны многіх паганскіх багоў замацаваліся ў назвах мясцовасці. Гэтак, паміж Мсціжом і Іканамі існуе ўрочышча Тырыя Горы, назва якога ўтворана ад імя бога ўрадлівасці і сонечнага культу - Тура. З паганскіх часоў да нас дайшлі шматлікія паданні аб вялікіх каменнях. Асаблівую цікавасць уяўляе паганскае месца на Бабінай гары ля вёскі Хрост, аснову якога складае камень з выявай крыжа і невядомых знакаў.

У асобных тутэйшых курганах XI - XII стст. пры пахаванні астанкі чалавека клаліся ў труну. Гэта можна назіраць ля Аздзяцічаў і ў іншых месцах. У XIII - XIV стст. звычай хаваць людзей у курганах знікае. У той час пачалі рабіць так званыя "жальнікі" - прамежкавыя пахаванні паміж курганамі і сучаснымі могілкамі. Пры гэтым капалася яма глыбінёй 1 -1.5 метра. Туды ў труне клаўся нябожчык. Яма засыпалася, а на паверхні рабіўся невялічкі ўзгорак, які абкладваўся каменнямі.

Паступова пераход ад курганоў праз жальнікі да сучаснага віду могілак можна было раней назіраць у Хаўхоліцы. Тут ля курганоў XI - XII стст. меліся жальнікі XIII - XIV стст., якія пераходзілі да сучаснага віду могілак.

(Працяг будзе)

*М.Мацельскі.*

# ДАЕШ "ТРАСЯНКУ"!

Вось ужо болей двух гадоў мінула з таго часу, як прайшоў рэферэндум аб двухмоўі на Беларусі. З улікам шырокага выкарыстання грамадзянамі рускай мовы, ёй быў нададзены статус дзяржаўнай. Правільна! Трэба ўлічваць мову мас. Вось толькі двухмоўе, пэўна, трэба разглядаць як прамежкавы этап. Не трэба спыняцца на паўкроках. Паслухайце ўважліва на вуліцах Барысава, на якой мове гавораць большасць людзей. На беларускай - не, на рускай - таксама не. Большасць гаворыць на змешанай рускай і беларускай мове, - на гэтак званай "трасянцы". Таму, згодна аргументацыі рэферэндуму, на яго трэба было выносіць пытанне аб наданні "трасянцы" статуса дзяржаўнай мовы. Народ бы прагаласаваў за гэта, а воля народа - для нас закон.

Барысаў мае ўсе шанцы стаць цэнтрам папулярызацыі "трасянкі" на Беларусі. Так, рэкламная шыльда з назвай рэстарана "Беразіна" ужо не першы дзесятак год упрыгожвае цэнтральны праспект горада. Гэта не беларуская Бярэзіна, але і не руская Березина. Смелы крок трэста сталовых і рэстаранаў у мовазнаўстве пакуль што нясмела падтрымлівае сваімі знакамі дарожная служба. Назва " Беразіна" - гэта ўжо класіка "трасянкі". Свежы струмень у яе развіццё ўнёс барысаўскі завод безалкагольных напояў, які нядаўна выпусціў шэраг напояў пад агульнай назвай "криница". Які смелы крок! Гэта ўжо не "крыніца", але ўжо і не "источник" ці "родник". Хацелася б пажадаць заводу безалкагольных напояў не спыняцца на дасягнутым. Можна было б, напрыклад прапанаваць у якасці наступных крокаў мінеральную ваду назваць "Барысовкой". Гучыць добра, проста панароднаму.

Так што, паважаныя барысаўцы, нам у горадзе з такімі слаўнымі традыцыямі проста неабходна выступіць у якасці ініцыятараў чарговага "моўнага" рэферэндуму. Вось толькі адно пытанне мяне засмучае. Большасць людзей у нас гавораць з актыўным выкарыстоўваннем, мякка кажучы, нелітаратурных выразаў. Значыць, згодна аргументацыі прайшоўшага "моўнага" рэферэндуму...

А можа мы з вамі пайшлі не ў тым накірунку?

*Ян Юроўскі.*




Мал. Л. Гадуна

Да таго як прыехаць у Барысаў і стаць настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў СШ N 18 Цяліпцы Галіне Аляксееўне давялося шмат дзе пабываць і шмат чым займацца: вучыцца ў інстытуце, працаваць выкладчыкам, бібліятэкарам, жыць ў Малдове, Германіі...

Але дзе б яна ні знаходзілася, у яе жыла шчырая заміляванасць да роднага куточка на Брэстчыне, да бацькоў, якія ўсім укладам свайго жыцця прывілі любоў і павагу да роднага слова, народных звычаяў, традыцый. Гэтыя традыцыіі знайшлі свой працяг у яе сям'і.

Вершы Цяліпкі Г.А., якія прапаноўваюцца ўвазе чытачоў,- толькі адна з праяў яе творчай натуры

Не муч мой верш
Каля свайго парога,
Шырока дзверы
Расчыні яму,
А калі зможаш,
То адкрый дарогу
(Хоць не прамую)
К сэрцу свайму.

Ён прынясе
Гаючыя бальзамы
Зямлі бацькоўскай,
Шчырай і святой,
І дзіва дзіўнае -
Садоў маёвых замець -
І пах зямлі,
Напоенай вадой

Не муч мой верш
Каля свайго парога,
Вазьмі з сабою
У нялёгкі дзень.
І ўбач мяне
Крынічкай ля дарогі,
І сілы дасць табе
Яе струмень.

***

Мне б ля той рэчкі ціха - дзівоснае
Росныя ранкі стрчаць.
І пад альхой на матуліных кроснах
Ручнік павуцінкамі ткаць.

І расшываць іх празрыстасцю сіняй,
Промнямі сонца асыпаць.
Хай бы цвілі васількі з канюшынай,
Ціха шаптала пшаніца.

І кутасы хай сплывалі б да дому
Золатам жытніх калоссяў.
Хай бы спявала знаёма да болю
Родных мясцін шматгалоссе.

***

Не хачу, не цярплю
Гэтых позаў надуманых,
Цыгарэтавы чад
У завулках глухіх
І брынчанне гітары
Рознагалосай,
Нечаканыя дотыкі
Грубай рукі.

Не хачу, не цярплю
Гэтых рэплік нястрыманых
Абыякавых позіркаў
На Ікараў палёт,
На свята Афрадыты,
І пагарды адкрытай
Да ўзнёслых Бетховенскіх
Зачараваных нот.

А.Маеўская - карэнная барысаўчанка, па адукацыі філосаф, працуе выкладчыкам гісторыі. Друкуецца больш за дваццаць год. За гэты час яе вершы змяшчаліся ў многіх беларускіх газетах і часопісах.

## Народ беларускі

Твае пераможныя вежы
І я будавала здаўна.
Пад крыламі птушак драпежных
Ты прагу да волі спазнаў.

Мой мужны, мой русавалосы
Маланкавай зброі ўладар,
Народ, земляроб і філосаф,
Язычнік і вечны змагар.

З табою нашу я кайданы
І ведаю ганьбу ярма,
Народ мой абрабаваны,
Пакутней якога няма.

Ды толькі не вырваць з карэннем
Табою пасаджаны дуб,
Не знішчыць у пакаленнях
Высокі наш крывіцкі дух.

# БАРЫСАЎСКІ СЛЕДАВІК

З даўніх часоў у нашым краі, як і амаль ва ўсім свеце, вядомы камені з адбіткамі чалавечых ног. На Беларусі вядомы каля сотні такіх каменняў - следавікоў. Быў калісьці такі камень і ў Барысаве.

Па меркаванню даследчыкаў, большасць гэтых "адбіткаў" былі высечаны чалавекам не пазней неаліту і бронзавага веку. Як мяркуецца, такія камяні з'яўляліся месцамі правядзення розных абрадаў, а магчыма, што імі пазначалі межы плямёнаў або княстваў. Магчыма таксама, што сляды на камянях рабіліся з мэтаю ўшанавання продкаў.

Звестак аб барысаўскім следавіку захавалася няшмат. Вядома, што ў старыя часы ён знаходзіўся ў лесе ў некалькіх мілях ад горада. У XVII стагоддзі, пасля пабудовы драўлянага касцёла ў Барысаве следавік быў перавезены ў горад і ўсталяваны непасрэдна ў каталіцкім храме. Камень быў шэрага колеру і на ім было некалькі выразных адбіткаў чалавечых ног.

Куды падзеўся барысаўскі следавік, зараз сказаць цяжка. Хутчэй за ўсё, пасля таго, як у 1806 годзе згарэў стары будынак касцёла, гэты камень быў выкарыстаны ў падмурку новага храма. Ва ўсякім выпадку падобнае ў мінулыя часы на Беларусі мела месца. Хто ведае, можа калісьці падчас рамонту касцёла каму і пашанцуе знайсці за атынкоўкай падмурка гэты следавік?

*А. Барэвіч.*

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Самым вялікім населеным пунктам у нашым краі без уліку Барысава з'яўляецца Лошніца. Яе насельніцтва па стану на 1.01.95 г. складае 7,1 тысяч чалавек.

У Лошніцы пражывае 13,9% сельскага насельніцтва Барысаўшчыны, гэта значыць кожны сёмы жыхар нашага краю без уліку Барысава.

Лошніца з'яўляецца 127 з 25727 населеных пунктаў Беларусі. На Беларусі ўсяго тры пасяленні сельскага тыпу, якія маюць большае насельніцтва, чым Лошніца. Гэта Калодзішчы, Мачулішчы і Лясны ( усе - Мінскі раён ). Са 109 мястэчак Беларусі 82 маюць меншую колькасць насельніцтва, чым Лошніца.

На Беларусі ёсць чатыры гарады, якія маюць меншую колькасць насельніцтва, чым Лошніца. Гэта Высокае, Косава ( Брэстская вобл.), Дзісна ( Віцебская вобл.) і Васілевічы ( Гомельская вобл.). Гарады Чачэрск ( Гомельская вобл.) і Слаўгарад ( Магілёўская вобл.) маюць практычна такую ж колькасць насельніцтва, як і Лошніца.

Згодна існуючага падання заснаванне Лошніцы можа быць аднесена да другой паловы XIV - пачатку XV стагоддзя.

Найбольш старое пісьмовае сведчанне аб Лошніцы адносіцца да XVI стагоддзя.

Найбольш старая карта, на якой нанесена Лошніца, - карта, выдадзеная М.Хрыстафорам Радзівілам у 1613 годзе.

Лошніца ў VXIII стагоддзі мела статус мястэчка.

У 1846 годзе ў Лошніцы было 113 двароў, што ўсяго толькі ў 3.7 разоў менш, чым было на той час у Барысаве.

# КРЫЖАВАНКА

Адгадайце шэсць слоў, што размешчаны па гарызанталі. Пасля таго вызначыце прозвішча вядомага паэта ( **1 па вертыкалі** ), які пэўны час жыў на Барысаўшчыне, аўтар радкоў

Паўстаў Барысаў у сотні гонаў,
Стаіць над рэчкай і сніць думы:
Які ён быў, якія сёння
Яму пяюць Бярозы шумы.

**Па гарызанталі:** 2 - сёмая па сярэднегадавому аб'ёму стоку вады рака на Барысаўшчыне; 3 - сучасная назва вуліцы ў Барысаве, якая звалася ў розныя часы Харугвавай, Турэмнай, Свабоды; 4 - вёска ў Хаўхоліцкім сельсавеце; 5 - вёска, якую праглынуў Барысаў у XX ст.; 6 - старая назва вуліцы Працы ў накірунку сучаснага млынкамбіната ад чыгуначнага вакзала; 7 - самая паўднёвая вёска на Барысаўшчыне.




**Адказы на крыжаванку,** што была змешчана ў "ГБ" №1(2): 2 - Мрай; 3 - Батарэі; 4 - Кабыльшчына; 5 - Чэрнеўка; 6 - Беразоўшчына; 7 - Васкрасенкі;8 - Дамініканцаў; 9 - Ніўкі; 1 - Крашэўскі.

Гоман Барысаўшчыны
Рэгістрацыйны нумар 595
Заснавальнікі:
І.Белы,
У.Буйко,
У.Дубаневіч,
М.Мацельскі,
М.Пучыла.
Рэдактар М. Мацельскі
Адрас рэдакцыі : г. Барысаў, 1-ы зав. К. Лібкнехта, 1
Наклад 4000 паасобнікаў
Падпісана ў друк 18.00 16.12.97 г.
Замова № 7063
Аршанская друкарня
г. Орша, вул. Замкавая, 3

*Адрас для пісьмаў:*
*222120*
*Барысаў - 1,*
*а / с 43*